ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 29 (2555)
ПЯТНІЦА
16
ліпеня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



**Ткачыха Вольга ЛУКАШЭВІЧ.**

Здымак зроблены фотамастаком Валянцінам Ждановічам у вёсцы Моталь Іванаўскага раёна.

Артыкул аб яго работах чытайце на стар. 14.

# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

**У Мінску 14 ліпеня 1971 года адбыўся II Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.**

**На парадку дня пленума:**

**1. Аб мерапрыемствах ЦК КП Беларусі па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС.**

**2. Аб правядзенні ўборкі ўраджаю і ходзе нарыхтоўкі кармоў у Магілёўскай і Гродзенскай абласцях.**

**3. Інфармацыя аб выкананні даручэння XII пленума ЦК КПБ (снежань 1969 года) па павелічэнні вытворчасці ў рэспубліцы вапнавых матэрыялаў для сельскай гаспадаркі.**

**4. Пытанні першай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР восьмага склікання.**

**З дакладам «Аб мерапрыемствах ЦК КП Беларусі па выкананні рашэнняў XXIV з'езда КПСС» выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў.**

**У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел: І. Я. Палякоў — першы сакратар Мінскага абкома КПБ, У. А. Мікуліч — першы сакратар Брэсцкага абкома КПБ, В. В. Прышчэпчык — другі сакратар Магілёўскага абкома КПБ, М. А. Барысевіч — прэзідэнт Акадэміі навук БССР, М. Ц. Архіпец — міністр прамысловага будаўніцтва БССР, Р. С. Жданко — другі сакратар Гомельскага абкома КПБ, А. М. Віташкевіч — расточнік Мінскага завода аўтаматычных ліній, Герой Сацыялістычнай Працы, І. Ф. Мікуловіч — першы сакратар Гродзенскага абкома КПБ, В. Ф. Бараноўская — галоўны агранам калгаса імя Леніна Бялыніцкага раёна, П. Я. Рубіс — старшыня выканкома Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных, А. П. Калошын — першы намеснік старшыні Дзяржплана БССР, І. А. Палійка — старшы машыніст экскаватара Іванаўскага БМУ трэста «Брэстводбуд», Герой Сацыялістычнай Працы, В. І. Шарапаў — першы сакратар Мінскага гаркома КПБ.**

**Даклады «Аб правядзенні ўборкі ўраджаю і ходзе нарыхтоўкі кармоў у Магілёўскай і Гродзенскай абласцях» зрабілі першы сакратар Магілёўскага абкома КП Беларусі Г. А. Крыулін і старшыня выканкома Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных М. П. Малочка.**

**З паведамленнямі па гэтым пытанні выступілі: Д. В. Цябут — старшыня выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных, У. В. Лашкевіч — старшыня выканкома Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных, І. А. Шыбека — сакратар Віцебскага абкома КПБ, К. В. Мацюшэўскі — старшыня выканкома Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў працоўных, Б. М. Пажарскі — старшыня Рэспубліканскага аб'яднання «Белсельгастэхніка».**

**У заключэнне спрэчак па другім пытанні з прамовай выступіў Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР Ц. Я. Кісялёў.**

**Па абмеркаваных пытаннях пленум ЦК КПБ прыняў пастановы.**

**Пленум заслухаў інфармацыю сакратара ЦК КП Беларусі А. А. Смірнова аб выкананні даручэння XII пленума ЦК КПБ (снежань 1969 года) па павелічэнні вытворчасці ў рэспубліцы вапнавых матэрыялаў для сельскай гаспадаркі.**

**Пленум ЦК КПБ разгледзеў таксама пытанні першай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР восьмага склікання.**

**У рабоце пленума ЦК КПБ прыняў удзел загадчык сектара аддзела арганізацыйна-партыйнай работы ЦК КПСС П. В. Караткоў.**

**Удзельнікі пленума мінутай маўчання ўшанавалі памяць члена ЦК КПСС, члена Бюро ЦК КПБ, вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча, выдатнага арганізатара партыйнага і савецкага будаўніцтва ў Беларусі, бясстрашнага рэвалюцыянера-падпольшчыка Кампартыі Заходняй Беларусі, намесніка Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Сяргея Осіпавіча Прытыцкага; члена ЦК КПБ, старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па радыёвяшчанні і тэлебачанні Вячаслава Пятровіча Палескага-Станкевіча; члена Рэвізійнай камісіі Кампартыі Беларусі, першага сакратара Уздзенскага райкома партыі Мікалая Захаравіча Ярмольчыка.**

# ПЕРШАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ВОСЬМАГА СКЛІКАННЯ

Учора, 15 ліпеня, у Мінску ў Доме ўрада пачала работу Першая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі восьмага склікання.

Ва ўрадавых ложах — таварышы Ц. Я. Кісялёў, Л. Г. Кляцкоў, А. Т. Кузьмін, У. Е. Лабанок, П. М. Машэраў, У. Ф. Міцкевіч, І. Я. Палякоў, А. А. Смірноў, Ф. А. Сурганаў, У. І. Падрэз, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Ф. Клімаў, намеснікі Старшыні Савета Міністраў БССР, міністры і іншыя члены ўрада.

Сесію Вярхоўнага Савета Беларускай ССР восьмага склікання адкрыў адзін са старэйшых дэпутатаў К. К. Атраховіч (Крапіва) — народны пісьменнік БССР, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР.

Дэпутаты пачынаюць выбранне Старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Па прапанове дэпутата А. Т. Кузьміна, які выступіў па «даручэнні Савета старэйшын, сесія аднагалосна выбірае Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР І. П. Шамякіна — дэпутата ад Пухавіцкай выбарчай акругі Мінскай вобласці, пісьменніка, першага намесніка старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. І. П. Шамякін шчыра дзякуе за аказаны гонар і высокае давер'е і запэўнівае, што прыкладзе ўсе сілы, каб апраўдаць гэта высокае давер'е.

І. П. Шамякін прапануе ўшанаваць памяць памёршых Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР дэпутата С. О. Прытыцкага і старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні дэпутата В. П. Палескага.

Намеснікамі Старшыні Вярхоўнага Савета БССР аднагалосна выбіраюцца дэпутаты Р. П. Унук (Маскоўская выбарчая акруга, горад Мінск), У. М. Калачык (Лебедзеўская выбарчая акруга, Мінская вобласць), Л. Я. Талецкая (Альшанская выбарчая акруга, Брэсцкая вобласць), М. Ф. Галалобаў (Віцебская — Ленінская выбарчая акруга, Віцебская вобласць).

Зацвярджаецца наступны парадак дня сесіі:

1. Выбранне Мандатнай камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

2. Аб праектах законаў «Аб раённым Савеце дэпутатаў працоўных Беларускай ССР і «Аб гарадскім, раённым у горадзе Савеце дэпутатаў працоўных Беларускай ССР».

3. Аб утварэнні пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

4. Аб мерах па павышэнні ўрадлівасці глебы і паляпшэнні выкарыстання зямель у калгасах і саўгасах Беларускай ССР.

5. Аб праекце папраўча-працоўнага Кодэкса Беларускай ССР.

6. Зацвярджэнне ўказаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

7. Выбранне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

8. Утварэнне Урада Беларускай ССР — Савета Міністраў Беларускай ССР.

Вярхоўны Савет разглядае другое пытанне парадку дня сесіі — «Аб праектах законаў «Аб раённым Савеце дэпутатаў працоўных Беларускай ССР» і «Аб гарадскім, раённым у горадзе Савеце дэпутатаў працоўных Беларускай ССР». Слова для даклада атрымлівае намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР дэпутат І. Ф. Клімаў.

Старшынствуючы — дэпутат І. П. Шамякін паведамляе, што на імя Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР паступіла наступная заява Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР дэпутата Ц. Я. Кісялёва: «У адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларускай ССР і ў сувязі з тым, што на разгляд Вярхоўнага Савета Беларускай ССР пастаўлена пытанне аб стварэнні Урада Беларускай ССР, Савет Міністраў лічыць свае абавязкі вычарпанымі і складае свае паўнамоцтвы перад Вярхоўным Саветам.

Савет Міністраў Беларускай ССР просіць Вас давесці аб гэтым да ведама Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».

Слова атрымлівае першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі дэпутат П. М. Машэраў. Па даручэнні Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі ён уносіць прапанову, падтрыманую партыйнай групай і Саветам старэйшын Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, адобрыць дзейнасць урада Беларускай ССР і зноў назначыць Старшынёй Савета Міністраў БССР дэпутата Ц. Я. Кісялёва, даручыўшы яму прадставіць на разгляд Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прапанову аб саставе Урада—Савета Міністраў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

На вячэрнім пасяджэнні быў заслуханы даклад старшыні Мандатнай камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дэпутата Л. Г. Кляцкова. Вярхоўны Савета аднагалосна прымае пастанову аб прызнанні паўнамоцтваў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, выбраных па 423 выбарчых акругах.

Затым з заключным словам па другім пытанні парадку дня выступіў намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дэпутат І. Ф. Клімаў.

Вярхоўны Савет аднагалосна прымае закон «Аб раённым Савеце дэпутатаў працоўных Беларускай ССР» і закон «Аб гарадскім, раённым у горадзе Савеце дэпутатаў працоўных Беларускай ССР». Прымаецца таксама пастанова аб увядзенні ў дзеянне гэтых законаў.

Вярхоўны Савет пераходзіць да ўтварэння пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Утвараюцца 15 пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па галінах дзяржаўнага, гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва.

Вярхоўны Савет пераходзіць да абмеркавання наступнага пытання парадку дня — аб мерах па павышэнні ўрадлівасці глебы і паляпшэнні выкарыстання зямель у калгасах і саўгасах Беларускай ССР. З дакладам выступіў міністр сельскай гаспадаркі БССР дэпутат С. Г. Скарапанаў.

На гэтым вячэрняе пасяджэнне Вярхоўнага Савета БССР заканчваецца.

Сёння, 16 ліпеня, сесія працягвае работу.

# У МАСКВУ З ПЕСНЯМІ

Слава Бароўскага народнага хору, якому нядаўна споўнілася 20 гадоў, перасягнула межы Іўеўскага раёна.

Калектыву аказан гонар выступаць у сталіцы нашай Радзімы. Яго канцэрты адбудуцца ў Маскве — на прадпрыемствах, на ВДНГ.

У рэпертуары хору рускія і беларускія народныя песні, песні савецкіх кампазітараў. Гэта—«Беларусь сінявокая», «Табе, Беларусь», «Бывайце здаровы» і многія іншыя.

Кіруе хорам настаўнік мясцовай школы Віктар Канстанцінавіч Шарэцкі.

Цяпер у сельскім клубе калгаса «Зара» гарачыя дні. Ідзе падрыхтоўка да адказных выступленняў.

**Я. МАКОУСКІ,**
заг. аддзела райгазеты.

г. п. Іўе.
Гродзенская вобласць.

# ВЫНІКІ І ЗАДАЧЫ

## З АДКРЫТАГА ПАРТЫЙНАГА СХОДУ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

13 ліпеня пісьменнікі сталіцы сабраліся на адкрыты партыйны сход, каб абмеркаваць вынікі работы пятага Усесаюзнага з'езда. З дакладам «Вынікі пятага з'езда СП СССР і задачы пісьменнікаў Беларусі» выступіў першы намеснік старшыні праўлення СП БССР Іван Шамякін.

І. Шамякін каратка ахарактарызаваў творчую атмасферу, у якой праходзіў пісьменніцкі з'езд: вялася вялікая і зацікаўленая размова аб праблемах і задачах савецкай шматнацыянальнай літаратуры.

Паводле меркаванняў прамоўцы, у справаздачы Г. Маркава і ў выступленнях дэлегатаў з'езда звяртаюць на сябе ўвагу тры важныя моманты.

У апошнія гады вельмі паспяхова развівалася літаратура братніх рэспублік. Аб гэтым пераканаўча гаварылі на з'ездзе В. Казачэнка, Ч. Айтматаў, Максім Танк, А. Алімжанаў, Р. Эсенаў і многія іншыя. Яны ўзнялі шэраг надзённых пытанняў літаратурнага жыцця краіны. Сярод іх—пытанне недастатковага адлюстравання праблем сучаснасці ў творах пісьменнікаў. Датычыць гэта не ў апошнюю чаргу і літаратараў нашай рэспублікі — рэспублікі, у якой надзвычай хутка расце прамысловасць, праходзіць працэс вялікіх пераўтварэнняў у сельскай гаспадарцы. На жаль, у кнігах пісьменнікаў Беларусі яшчэ не знайшла дастойнага адлюстравання тэма стваральнай працы рабочага класа і калгаснага сялянства.

Бясспрэчным фактам з'яўляецца і тое, што стан нашай літаратурнай крытыкі нездавальняючы. Невыпадкова на XXIV з'ездзе КПСС ішла гаворка аб ёй, перад ёю былі пастаўлены новыя задачы: «Ад крытыкі патрабуецца зараз большая ідэйная і прафесійная ўзброенасць, большая чуйнасць да жыцця і мастацтва». Заўвагі, зробленыя на пятым Усесаюзным з'ездзе ў адрас крытыкі, цалкам стасуюцца і да нашай пісьменніцкай арганізацыі. У прыватнасці, крытыкі недаравальна мала праяўляюць цікавасці да новых імён. Крытычныя артыкулы не заўсёды спалучаюць у сабе неабходную прынцыповасць, патрабавальнасць і тактоўнасць. І ў гэтай сувязі нельга не зрабіць папрок нашым перыядычным выданням. Партыйнай арганізацыі СП БССР трэба не выпускаць з-пад сваёй увагі ўсе шматлікія пытанні, праблемы развіцця нашай крытыкі, работу крытычных аддзелаў нашых друкаваных органаў.

Выступіўшы ў спрэчках, Л. Прокша падзяліўся ўражаннямі ад з'езда, расказаў пра выступленні на з'ездзе замежных літаратараў, падкрэсліў, што ўсесаюзны пісьменніцкі форум быў адзначаны разнастайным і жывым абменам паміж пісьменнікамі вопытам іх працы і жыцця.

Сакратар бюро партыйнай арганізацыі СП БССР А. Кулакоўскі ў сваёй прамове гаварыў аб тым, што паспяховае развіццё літаратуры ў многім звязана з актыўнасцю і прынцыповасцю крытыкі. На яго погляд, недаравальным з'яўляецца адсутнасць на старонках часопісаў літаратурных аглядаў за пэўны перыяд. А хіба правільна, калі некаторыя крытыкі знарок ухіляюцца ад рэцэнзавання малых форм прозы (апавяданне, кароткая аповесць) і чакаюць... пакуль з'явіцца ў друку нейкі «раман веку»?

Можа таму ў апошні час і знаходзіцца ў занядбанні жанр апавядання. А не так даўно на старонках часопісаў друкаваліся выдатныя апавяданні Я. Брыля, В. Быкава, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава і іншых. Сёння ж апавяданні і старэйшых і маладзейшых празаікаў не вельмі радуюць чытача: яны дробнатэмныя, часам бесканфліктныя, вылучаюцца нуднай разважлівасцю.

М. Аляксееў у сваім выступленні гаварыў аб узмацненні ўвагі да ваенна-патрыятычнага выхавання нашай моладзі. Ён заклікаў пісьменнікаў, як мага больш творчых сіл аддаваць гэтай пачэснай справе.

Удзельнікі адкрытага партыйнага сходу абмяняліся думкамі і па некаторых іншых надзённых пытаннях літаратурнага жыцця.

## ПОЛЫМЯ · БЕЛАРУСЬ · МАЛАДОСЦЬ · НЕМАН

# ЧАСОПІС

# ЗБАЛЕЛАЯ ПАМЯЦЬ

ПАМІЖ нядаўніх летніх дзён, шчодрых на сонца, зеляніну і квецень, дзён святочных і будніх, звычных у сваім харастве, запоўненых вялікімі і малымі справамі і турботамі, быў і дзень адметны.

22 чэрвеня. У гэты дзень, як звычайна, раскашавала лета, спявалі птушкі, налівалася жыта і выспявалі яблыкі ў садах. Спакойна спалі і бесьтурботна гулялі дзеці. Выпускнікі школ са шчымлівай радасцю і чароўнай тугою святкавалі кароткую ноч на мяжы паўналецця. А людзі сталага веку...

...Можа, хто з іх спакойна і спаў. Можа нават ні аб чым асаблівым у гэты дзень не думаў. І нічога істотнага, значнага не зрабіў. І застаўся ў палоне будзённасці, у яе мітусні і дробных клопатах, не адчуў вялікага, шчаслівага і трывожнага зместу вясёлай гамонкі дрэў і птушыных песень, гулу будоўляў і машын, дзіцячага смеху або мілага—нядоўгага—плачу з-за нейкай драбязы, што тут жа мінецца, змяніўшыся новай радасцю.

Не, ўяўляюцца іншыя — многія, многія, многія людзі. У раскашаванні гэтага дня было ім балюча, трывожна, пакутна. У трыццатае лета ад пачатку Вялікай Айчыннай памяць верталася **туды**, у той самы гэткі ж шчодры, ясны, невыказна прыгожы дзень, калі пачалося **ўсё тое. Усё тое...** На адно чалавечае сэрца не хопіць ні пачуццяў, ні слоў, каб увабраць у сябе, перажыць і выказаць **усё тое**—ліхалецце, пакуты, бамбёжкі, пажары, расстрэлы, галадоўкі, катаванні і здзекі, руіны, попел, канцлагеры, невыносныя страты, бязмежжа ўсенароднага гора. Потым было вызваленне—вынік народнага гераізму і стойкасці, мужнасці і ахвярнасці, перамога нашага ладу, нашых прынцыпаў, жыцця, нашых ідэй, нашай праўды.

Памяць вярталася, не магла не вяртацца туды. Не трэба клікаць на дапамогу ўяўленне. Гэта жыве ў нашых сэрцах, гэта ніколі не забудзецца ні ў вялікім, ні ў дробязях.

Няма сёння на беларускай зямлі вёсак Хатынь, Красніца, Тупічыцы, Вяда і больш за сотню іншых колішніх мірных і абжытых селішчаў. Няма іх—засталіся толькі назвы. А людзей, колькі людзей не дачакалася вызвалення і перамогі...

Даведка з БелСЭ: «Усяго за гады акупацыі фашысты знішчылі на Беларусі больш за 2 мільёны 200 тысяч савецкіх грамадзян і ваеннапалонных; вывезлі ў Германію на катаржныя работы каля 380 тысяч чалавек. Гісторыя сусветнай цывілізацыі не ведае такога масавага і зверскага знішчэння людзей, варварскага разбурэння матэрыяльных, культурных і навуковых каштоўнасцей, якія ўчынялі гітлераўцы на акупаванай тэрыторыі СССР».

Жах гэтых лічбаў і звестак жыве ў памяці народнай, у памяці сведкаў-відавочцаў вострым незагойным болем—як асабістыя ўспаміны, як прывідныя сны, як нешта неймавернае ў нялюдскасці і зверстве. І гэта бачанае, перажытае, востра і назаўсёды запомненае—неадрыўна ад усяго далейшага нашага жыцця, забяспечанага сённяшнім мірам.

«Я не хачу ні аб чым забываць, памяць не непатрэбшчына і не баласт, памяць—вялікі дар. Не будзь памяці: лёгкім, але нікчэмным было б жыццё чалавека...»,—пісаў у 1945 годзе, неўзабаве пасля перамогі, Ілья Эрэнбург.

Так, людзі не хочуць і не могуць забываць. І не маюць права—і ў імя тых, хто загінуў, і ў імя сучаснасці і будучыні. І не забываюць. На мітынгах, сходах, на сустрэчах былых франтавікоў і партызан, вязняў канцлагераў, у дні памятных дат і проста ў будні, пры нагодах і без нагоды зноў і зноў вяртае збалелая памяць дні вайны, яе відовішчы, яе суровыя выпрабаванні.

І таму так многа гаворыцца на старонках чэрвеньскіх нумароў нашых часопісаў аб незабыўных гадах і днях Вялікай Айчыннай, аб пакутах і барацьбе народнай.

Пра гераічных дзяцей — «Гаўрошаў Брэсцкай крэпасці»—піша былы ўдзельнік легендарнай абароны пісьменнік **Алесь Махнач** («Беларусь»).

Пра ганебныя злачынствы фашысцкіх разведвальна-дыверсійных і карных служб, акупацыйных улад расказвае ў вялікім публіцыстычным артыкуле падпалкоўнік, начальнік аддзела Цэнтральнага музея Узброеных Сіл СССР **А. Крупеннікаў** («Неман»).

Паэт **Ніл Гілевіч** бачыў вайну вачыма дзяцінства. Сёння ж яго дзіцячыя ўражанні сплятаюцца з роздумам і вопытам сталай адказнасці за жыццё і свет: «...я мару пра мір на зямлі. Павінен жа мір апраўдаць такую ахвяру! На тысячы год у імя яго ахвяру дало чалавецтва! Між іншым, і частку сэрца майго. Найлепшую частку, здаецца». («Маладосць»).

Усё гэта—выпакутаваныя, прачулыя, прасякнутыя гневам, болем і страсцю словы пра вайну. Яны цесна звязаны з сённяшнімі трывогамі і клопатамі чалавецтва, нясуць гуманістычную службу ў нашай барацьбе з ахвотнікамі сусветнай бойні. І яны—даніна пашаны, памяці ахвярам фашызму, удзячныя словы пра народны подзвіг і гераізм.

Хочацца асобна вылучыць надрукаваны адначасова ў «Маладосці» і «Немане» (пераклад Д. Кавалёва) нарыс «Памяць» **Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка**. Немагчыма чытаць гэтае, яшчэ адно слова пра вайну, без хвалявання. Яно раніць сэрца, яно—у найбольшай, здаецца, блізкасці да зведанага нашым народам вялікага гора. Гэтае слова трох вядомых пісьменнікаў, былых удзельнікаў партызанскага змагання, непасрэдных сведкаў і відавочцаў многіх эпізодаў народнай трагедыі,—асаблівае. Звычайнае і незвычнае. Сціслае і ёмістае. Сціпла будзённае (вось паехалі ўтраіх чэрвеньскім днём па беларускіх вёсках і вёсачках—нагаварыць, наслухаць людзей, якія ўратаваліся ад вынішчэння) і—узнесенае да вышынь патэтыкі. Арганічнае і чыстае па тоне, па сувязі з жыццёвай існасцю, гранічна канкрэтнае і адначасова — шырокае, прасторнае ў сваім абагульненні.

Зрэшты, гэта не нарыс, не інтэрв'ю і не артыкул. Гэта пачатак, частка вялікай і асаблівай кнігі, задуманай аўтарамі.

**«Лічбы і факты,—тлумачаць яны сваю задуму,—прамаўляюць перш за ўсё да розуму. Да сэрца прамаўляюць жывыя словы ацалелых сведак нечуваных трагедый, якія наш народ перажыў у гады акупацыі. Неабходна, пакуль гэта не позна, ажывіць для сучаснікаў і захаваць для нашчадкаў успаміны тых простых працоўных людзей, ужо старых бацькоў і матак, колішніх падлеткаў і дзяцей, якім давялося цудам ацалець, прайшоўшы праз пекла знішчэння. Няхай гэтыя галасы будуць з намі, з нашым народам і з усімі сумленнымі людзьмі, хай яны не толькі напамінаюць пра мінулае, але і клічуць быць пільнымі».**

І вось прамаўляюць да сэрца «адна з пакутніц і гераінь, калісьці маці, а цяпер ужо бабуля» **Дар'я Баран** з вёскі Байкі на Пружаншчыне; «дзіця вайны», сёння сама ўжо маці **Аўдоцця Ермаловіч** з вёскі Святая Воля; былы падлетак, зараз ужо бацька, 40-гадовы мужчына **Мікалай Шабуня**; селянін-пенсіянер з Целяханаў **Андрэй Куратнік**; шасцідзесяцігадовая **Барбара Слесарчук** з палескай вёскі Бабровічы...

**«Высока зверху—над светлым пакоем калгаснай бібліятэкі, дзе мы слухалі людзей, над новай вялікай вёснай, над усім гэтым азёрналясным кутком Заходняга Палесся, — да самых касмічных арбітаў жыве, бушуе ў сонцы наша перамога, наспяваюць новыя небяспекі, ідзе змаганне за тое, каб яны не прыйшлі.**

**А ўнізе, у глыбінях народнага жыцця, у жыццядайнай прастаце яго крынічаць раны памяці, якія нічым не загоіш...»**

Мабыць, няма патрэбы гаварыць пра тое, што гэтыя сустрэчы, размовы вымагалі ад аўтараў і асаблівай душэўнай далікатнасці і самай высокай здольнасці суперажывання. Але нельга не адзначыць той тактоўнасці, скупой дакладнасці слова, думкі, кожнага душэўнага жэсту, калі яны дакранаюцца да чалавечага гора, калі яны, выклікаўшы чалавека на споведзь, не пераказваюць яе, а—каб ні фальшывінкі—перадаюць яе так, як павяло ўспаміны і якія дало словы тое даўняе, незабыўнае.

Бабуля Дар'я Баран («у памяці нашай слёзы і словы яе жывуць і застануцца яшчэ больш дакладна»,—так прынялі ў душу яе споведзь аўтары нарыса) расказвае светлым апоўднем:

**«...Адна мая дзевачка кінулася ўцякаць, а немец па ёй—з кулямёта. Яна і ўпала за мяжу. Немец хлопца паслаў... Ён, той хлопец, і сёнека е... «Забяры тое дзецко, што я забіў!». Той пабег. Трасе яе: «Жэня! Жэня!..» (Бабуля плача, не могучы гаварыць)... «Я яе,—потым хлопец расказваў,—узяў на бярэма, прынёс. Немец як закрычаў,—яна і адкрыла вочы. Падняў ён ёй плацечка, глядзіць. «Во,—кажа,—шчаслівае дзецко—як я яго з кулямёта не біў, а ўсё жывое...»**

Мікалай Шабуня адбыў дзень у пуні, куды сагналі карнікі ўсіх людзей на расстрэл. Уратаваўся цудам. Потым, пасля расстрэлу, бачыў магілы вяскоўцаў:

**«Тая магіла, дзе мужчыны, паднімалася не шмат, санціметраў на дваццаць. А кроў каля сценкі—фантанам. А дзе жанчыны... Клянуся... ісціным богам, што на жанчынах не менш, як санціметраў на семдзесят, то паднімецца, то асядзе... Значыць, яны толькі трохі прысыпалі, каб не відно было.**

**Потым людзей прыганялі, на трэці дзень, дабаўлялі зямлі...»**

Барбара Адамаўна Слесарчук «гаворыць з дзіўнай і сцішнаватай усмешкай—нібыта страшную казку, незвычайна далёкую, перажытую вельмі даўно». Увесь свет павінен, стаіўшы дыханне, слухаць гэтую «страшную казку» пра тое, што перажыла гэта простая жанчына з чатырма дзецьмі («пятым была бярэменна») паміж адным і другім і трэцім расстрэламі.

...Так, гэта жахліва, гэта і сёння невычэрпна балюча. Але нам трэба ведаць і помніць **усё**. І Асвенцім, і Трасцянец, і Хатынь, і пакуты цёткі Барбары... Яны пабуджаюць нас быць мужнымі, клічуць да грамадзянскай адказнасці за сваю Айчыну, за спакой ва ўсім свеце, за мір у В'етнаме і на Блізкім Усходзе. Яны абавязваюць нас жыць без дробязнай мітусні, зайздрасці, няшчырасці, хлусні. Яны гавораць, што наша Краіна Саветаў (і роўная між роўных у ёй—наша гераічная пакутніца Беларусь)—увасабленне міру і праўды ва ўсім свеце. Яны абавязваюць і пісьменніцкае слова быць нароўні з вялікай праўдай часу, ускладаюць на яго найвышэйшую адказнасць.

І можа не адна толькі кніга «Памяць» павінна пабачыць свет. Мабыць, неабходна шматтомная серыя, якая ўвабрала б галасы ўсіх людзей, што прайшлі праз пекла вайны.

**В. БЕЧЫК.**

# ХРОНІКА АДНАГО ЗЛАЧЫНСТВА

Часопіс «Неман» надрукаваў у двух нумарах (№№ 4—5) дакументальную аповесць Германа Круглова і Навума Цыпіса «Прыгавор прыведзены ў выкананне». Дэтэктыў сёння ўжо даказаў сваё права быць паўнацэнным жанрам мастацкай літаратуры. Прынамсі, лепшыя творы дэтэктыўнага жанру занялі сваё месца ў літаратуры як сапраўдныя мастацкія даследаванні жыцця і паводзін людзей. У дэтэктыва свае асаблівасці і свае магчымасці, абумоўленыя спецыфікай жыццёвага матэрыялу. Вастрыня сюжэту, незвычайнасць абставін, нярэдка — «загадкавасць» акалічнасцей, што вызначаюць развіццё дзеяння і ўнутраную напружанасць твора,—усё гэта тыя адзнакі дэтэктыву, якія забяспечваюць яму ўвагу і цікавасць самых шырокіх колаў чытачоў. Павярхоўныя дэтэктывы спекулююць на гэтай цікавасці—абы толькі пахітрэй «закруціць» дзеянне, паінтрыгаваць чытача, расквеціць персанажы каларытнай мовай—і тым самым дыскрэдытуюць жанр, збядняюць псіхалагічны і інтэлектуальны змест, жыццёвую і мастацкую значнасць падзей, аддаючы шчодрую даніну шаблону.

Аповесць Г. Круглова і Н. Цыпіса «Прыгавор прыведзены ў выкананне», здаецца, зацікавіла чытачоў. Мяркую па тым, што нумары часопіса, у якіх надрукавана аповесць, хутка разышліся. Чым зацікавіла? Дакументальнай асновай—справай аб забойстве, сюжэтам? Мабыць, і гэтым. Але ці толькі гэтым?

Што ж адбываецца ў аповесці? Знікаюць двое—маці і дачка. Неўзабаве становіцца ясна, што яны сталі ахвярамі злачынства. Крымінальны вышук адпрацоўвае адну, другую, трэцюю версію—усё дарэмна. І вось вясковыя хлапчукі ў глухім лесе знаходзяць астанкі трупаў. Адсюль сюжэт «коціцца» да развязкі. Забойца арыштаваны. Суд. Прыгавор прыведзены ў выкананне. Усё—кропка, скончана аповесць.

«Схема» падзей тыповая для дэтэктыву. Можна сказаць, што Г. Круглоў і Н. Цыпіс у пэўнай ступені аддалі даніну шаблону, хоць яны і спрабуюць адштурхоўвацца ад штампаў, нават падкрэсліваюць гэта («Адступленне ад правілаў: знаёмцеся—забойца»). Але варта аддаць і належнае аўтарам: нярэдка яны дамагаюцца мастацкай дакладнасці, умеюць знайсці належную танальнасць расказу, недакучліва выказаць свае адносіны да персанажаў і падзей, трапна акрэсліць псіхалагічную сутнасць чалавечых узаемаадносін.

Вось яны пішуць аб двух знішчаных светах—двух гвалтоўна абарваных жыццях, вось яны раздумваюць аб жыцці, якое магла б пражыць забітая дзяўчынка,—і вам цяжка застацца раўнадушнымі. А вось яны гавораць аб псіхалогіі і, з дазволу сказаць, «філасофіі» злачынцы, аб яго інстынкце самазахавання—і чытач «суперажывае» разам з аўтарамі пачуццё актыўнай нянавісці да забойцы, у якім абагульнены (нягледзячы на дакументальнасць) рысы злачыннага свету наогул.

Аповесць з'яўляецца хронікай расследавання аднаго злачынства. Але апавяданню пра адно злачынства аўтары надалі выразную эмацыянальную афарбоўку, змаглі ўзняцца да абагульненняў, і таму яно набыло сацыяльнае гучанне, вялікі сэнс: у барацьбу са злачынствам кожны з нас абавязаны ўнесці пасільны ўклад—толькі так мы здолеем хутка і канчаткова ачысціць наша грамадства ад ганебнай спадчыны мінулага.

Па строгіх літаратурных канонах аповесць атрымалася «безгеройнай». Але ўдумайцеся ў прачытанае, і вы прыйдзеце да высновы: усе дзеючыя асобы—ад вясковых хлапчукоў, знайшоўшых астанкі трупаў, да цудоўнага хлопца таксіста Жэнькі Карнета—усе яны, хто добраахвотна дапамагаў міліцыі шукаць і знайсці забойцу,—сабіральны, калі можна так сказаць, галоўны герой аповесці. І ў гэтым вялікі сэнс: ахова правапарадку—справа ўсяго народа.

Можна, мабыць, лічыць удачай аўтараў аповесці вобраз Шорахава, небяспечнага злачынцы-рэцыдывіста. Бачыш спустошанага, азвярэлага мярзотніка—і ў дачыненнях з людзьмі, і праз яго думкі і разважанні (аўтары выкарыстоўваюць на гэта не толькі ўнутраны маналог; даволі ўдала падключаюць яны і дзённік Шорахава). Праўда, шлях Шорахава да такога апусцення, перараджэння былога звычайнага хлапчука Сашкі ў смяртэльна небяспечнага вырадка нават контурна ў аповесці не прасочваецца.

Цікава змаглі аўтары паказаць і працу работнікаў міліцыі. Нам добра ўяўляюцца спакойны, разважлівы Шаг, стары практык Зотаў, іранічны Малахаў і непасрэдны Пратасеня.

Паколькі я не прафесійны крытык і не літаратар, то аб чыста літаратурных збудаваннях буду гаварыць асцярожна. Мне, скажам, падабаецца, што аповесць нагадвае дрэва, ад ствала якога адыходзяць шматлікія галіны і галінкі, якія нібы не маюць непасрэдных адносін да падзей, што апісваюцца. Гэта робіць твор шматбаковым, больш верагодным. Я маю на ўвазе раздзелы «Адступленне ад правіл», «Гамбіт Муцыя», «Дзве гісторыі аб Сікстынскай мадонне», «Другая сігнальная» і многія эпізоды. Мазаіка раздзелаў, якія, на першы погляд, далёка адстаяць адзін ад аднаго, складваецца ў канчатковым выніку ў цэльны, яркі малюнак.

Некалькі слоў і аб тым, што «рэзанула вуха» мне як юрысту. Шорахава неаднаразова выклікаюць на допыты і на кожным даказваюць яму, што ён забойца, хоць усім гэта ўжо ясна. Тым не менш яго ўсякі раз адпускаюць. Гэта—яўная «літаратуршчына». У жыцці такое не магло б мець месца: каб **асабліва небяспечны** (забойца!) злачынца-рэцыдывіст з ведама крымінальнага вышуку спакойна фланіраваў па гарадскіх бульварах? Гэта не памылка, а неахайнасць аўтараў,

# СЦЯЖЫНАМІ ЛЯСНЫХ САЛДАТ

Уладзімір Федасеенка быў шаснаццацігадовым падлеткам, калі грымнула вайна. Юнак — у атрадзе народных мсціўцаў. Партызан-падрыўнік спазнаў нялёгкія будні лясных салдат. Пра тыя будні, пра баявыя справы няскораных людзей Ул. Федасеенка расказаў у рамане «Дубовая града». Своеасаблівым яго працягам з'яўляецца новы раман «Віхры на скрыжаваннях».

У віры партызанскай вайны знаходзяцца героі твора. У большасці сваёй гэта юнакі і дзяўчаты. Без жыццёвага вопыту, без жыццёвага гарту. З рамантычнымі марамі і ўяўленнямі, з высокім палётам фантазіі. Чэрвень 1941-га прынёс іх рамантычным юнацкім душам суровыя выпрабаванні. Дачасна прыйшла сталая адказнасць і дарослы вопыт учынкаў, дзеянняў, спраў.

Вось аб гэтым, аб гартаванні нашай моладзі, яе характару ў тыя гады — раман «Віхры на скрыжаваннях».

Аўтар піша пра тое, што добра ведае, што асабіста перажыў, — пра беларускіх народных мсціўцаў, пра іх баі і паходы, іх суровы побыт.

У творы шмат (бадай, залішне шмат) замалёвак і карцін баявых аперацый лясных салдат і падпольшчыкаў: разгромы варожых гарнізонаў, розныя дыверсіі, спуск пад адхон цягнікоў, узрывы мастоў, засады на дарогах... Добра, што пісьменнік імкнецца адысці ад штампу, які сяды-тады спрабуе пусціць карэнні ў літаратуры на партызанскую тэматыку. Кожная ж аперацыя нечым вызначалася, была адметнай, пасвойму рыхтавалася, па-свойму праводзілася. Інакш і быць не магло — бязлітасная барацьба вымагала не толькі мужнасці, але і выдумкі, вынаходніцтва.

Напісаныя з жыццёвай пераканальнасцю лепшыя з баявых эпізодаў у рамане хвалююць і чытаюцца з цікавасцю.

Партызанскую вайну аўтар малюе як вайну з моцным і лютым ворагам. Героі рамана з часам добра ўведалі сілу і каварства свайго праціўніка. З крывавымі ранамі, з непазбежнымі стратамі вяліся з ім зацятыя баі.

Сярод многіх народных мсціўцаў, пра якіх расказваецца ў рамане «Віхры на скрыжаваннях», вылучаецца дыверсант-падрыўнік Валодзя Байкач. Гэта, па сутнасці, цэнтральная фігура рамана.

Характар юнака выяўляецца ў яго канкрэтных баявых справах. Аўтар пасылае Байкача на адказныя аперацыі і заданні, часам рызыкоўныя, якія патрабуюць адвагі, кемлівасці. Яго знаходлівасць і выдумка ў спалучэнні са смеласцю прыносілі баявыя ўдачы, і ён выходзіў пераможцам у вельмі складаных сітуацыях.

Пісьменнік не ідэалізуе Валодзю, не паказвае яго стопрацэнтна-бясстрашным героем, якому ўсё лёгка і проста даецца. Здараліся моманты, калі было яму боязна і жыццё вісела на валаску.

Цікава разгорнуты ў рамане вобраз Валі. Натуру дзяўчыны добра характарызуе ўжо адзін яе ўчынак, які, уласна, і вызначыў яе лёс у вайну: калі немцы схапілі Валю і, загнаўшы ў эшалон, везлі ў Германію, яна здолела на хаду выскачыць з цягніка і падалася да народных мсціўцаў. З недзявочай цягавітасцю зносіла ўсе нягоды партызанскага жыцця, хадзіла на баявыя аперацыі, на сувязь з падпольшчыкамі. Было і раненне, і смерць не раз глядзела ў вочы, але характар дзяўчыны быў з тых, што ў выпрабаваннях толькі загартоўваецца.

Дзейнічаюць у рамане Ул. Федасеенкі і іншыя народныя мсціўцы: Верасаў, Булынка, Верабейчык, Бізунок, Ядловец, Пыліла, Вітушка... Але іх, як людзей, мы адрозніваем хіба што па каларытных прозвішчах. Асобныя індывідуальныя рыскі ў іх, вядома, адшукаць можна, але ж такі эпічны жанр, як раман, патрабуе куды больш поўнага выяўлення чалавечых натур, мастацкага раскрыцця характараў у іх канфліктных узаемаадносінах, у развіцці і дзеянні.

Асобна стаіць у творы вобраз Шабліна, якому адведзена значнае месца. І гэта, на нашу думку, зусім апраўдана. Складаныя абставіны вайны нараджалі такіх тыпаў, і пра іх, вядома, трэба пісаць.

Мы сустракаемся з Шаблíным, калі той з'явіўся ў партызанскім лагеры і прыняў камандаванне сапёрнай ротай. Паводле яго слоў, ён перад самай вайной служыў на граніцы палітруком роты. У першыя дні вайны трапіў у акружэнне. І вось ён сярод партызан. Прайшоў час, і высветлілася, што Шаблін ніколі не быў палітруком, што ўвогуле ён ніякі не Шаблін, а Капыцкі. Крок за крокам раскрывае аўтар сутнасць Шабліна, і перад намі выступае воблік бяздарнага камандзіра — самаўпэўненага самадура, палахліўца і нягодніка. Скончылася тым, што ён уцёк з лагера і здаўся немцам у палон. Працуючы сярод ваеннапалонных, даведаўся, што рыхтуюцца ўцёкі з лагера. Ён данёс аб гэтым. Усе ваеннапалонныя былі расстраляны. Партызанская куля нарэшце абарвала жыццё здрадніка.

Вобраз Шабліна раскрываецца паступова, аўтар увесь час трымае чытача ў напружанні, даючы яму магчымасць задумвацца, шта ж гэта за чалавек.

Шаблін быў, так сказаць, унутраным ворагам партызан — чужы сярод сваіх. А вораг адкрыты — гітлераўцы... На жаль, варожы лагер у творы безаблічны — ворагі выпісаны аўтарам шаблонна.

Варта зрабіць і яшчэ заўвагу: у рамане неяк не адлюстраваны такі істотны момант партызанскага жыцця, як сувязь з Вялікай зямлёй—нейк абмінаецца гэта ў творы.

Недахопы рамана «Віхры на скрыжаваннях», вядома, істотныя. Яны, бадай што, непазбежныя — пісьменніку яшчэ бракуе вопыту. Валодаючы багатым жыццёвым матэрыялам, ён часта не можа пераадолець эмпірычнасць у апісанні падзей, знайсці кампазіцыйную адпаведнасць развіцця характараў, паглыбіцца ў псіхалогію герояў, адабраць найбольш характэрнае, істотнае...

**І. КУДРАЎЦАЎ.**

Уладзімір Федасеенка. «Віхры на скрыжаваннях». Раман. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970.

**КАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ**








Малюнкі мастака Л. Дубара да кнігі Э. Ялугіна «Мсціслаўцаў посах». Кніга выходзіць у выдавецтве «Беларусь».

# ДЛЯ КАГО ЗДЫМАЮЦЬ ФІЛЬМЫ?

НЯДАЎНА ў кніжных магазінах з'явілася кніга кіназнаўцы Вольгі Нячай «Экран і мы». Гэта яе першая самастойна выдадзеная работа і адначасова першая кніга ў Беларусі, якая закранае адну з цікавых і важных праблем у сучасным мастацтве — праблему фарміравання і выхавання эстэтычнага густу гледачоў.

Асноўную задачу сваёй работы В. Нячай вызначае наступным чынам: «Абагуліць тыя драбінкі вопыту, формы ідэйна-выхаваўчай работы з гледачом, якія знайшлі прымяненне на практыцы, прааналізаваць іх карыснасць і перспектыўнасць, іх магчымае выкарыстанне ў будучым».

Побач з гэтым у двух апошніх нарысах «На экране — «баявік» і «Спрэчкі ля экрана» робіцца спроба зразумець таямніцы эстэтычнай асалоды ад мастацтва. Аналізуючы лепшыя фільмы апошніх гадоў — «Ніхто не хацеў паміраць», «Твой сучаснік», «Моцныя духам», «Дажывём да панядзелка», — якія выклікалі цікавасць у шырокага кола гледачоў, В. Нячай хоча выявіць пэўную заканамернасць увагі гледачоў да гэтых стужак. Тыя законы відовішчнасці, сакрэты займальнасці, якія да гэтага часу застаюцца «рэччу ў сабе», непазнанай ісцінай.

Сёе-тое ў гэтых нарысах здаецца прамалінейным і спрошчаным, але не трэба забываць, што гэта першая разведка нязведанай тэмы.

З нарыса «Вачыма першых гледачоў» мы даведваемся аб многіх, забытых або паўзабытых фактах, аб самаадданай рабоце першых кінамеханікаў, якія з'яўляліся адначасова і прапагандыстамі кіно ў масах, аб асаблівасцях успрыняцця першых фільмаў жыхарамі некаторых сёл і вёсак. Знаёмячыся з імі, чытачу няцяжка зрабіць вывад аб той ролі, якую адыгралі кінаперасоўкі ў барацьбе за калектывізацыю сельскай гаспадаркі, за павышэнне культурнага ўзроўню народа. Пры гэтым аўтар вядзе свой расказ эмацыянальна, захоплена, з мноствам дэталяў і падрабязнасцей.

Нарысы, якія падагульняюць каштоўны вопыт па прапагандзе лепшых фільмаў мінулых гадоў, змяняюцца расказам аб формах і метадах ідэйна-выхаваўчай работы з гледачом сёння. Асабліва многа ўвагі ўдзяляе В. Нячай рабоце, якая праводзіцца ў мінскіх кінатэатрах «Зорка» і «Партызан». Праўда, яна занадта падрабязна гаворыць пра маладзёжныя вечары, лекторыі, віктарыны, хоць мэта яе кнігі, па аўтарскіх словах, яшчэ і ў тым, каб «прааналізаваць карыснасць і перспектыўнасць гэтых мерапрыемстваў» у сэнсе ўдасканалення мастацкіх густаў, далучэння гледача да кінамыслення». Фармулёўкі тыпу — «гледачы цёпла сустрэлі» — гучаць мала пераканаўча і не заўсёды пацвярджаюцца арыфметыкай пракату. Да таго ж у практыцы работы кінатэатраў ад залішняга эксперыментатарства, відаць, здараліся і прыкрыя недарэчнасці (лёгкая музыка ў фае,—глыбока псіхалагічны фільм на экране).

Па прыкладах і разважаннях В. Нячай бачыш, што не ўсім гледачам патрэбна якасна аднолькавая форма прапаганды і што рабоце па ідэйна-эстэтычным выхаванні гледача павінна папярэднічаць працяглая работа па дыферэнцыраваным вывучэнні яго. Возьмем, напрыклад, такую форму прапаганды, як уступнае слова перад фільмам. Ці так ужо неабходная яна ўсім гледачам? Мне думаецца, што не. Калі частка гледачоў будзе незадаволена крывіцца ад усведамлення таго, што губляе каштоўныя хвіліны свайго адпачынку, бо ёй не патрэбны каментарыі, а частка будзе слухаць уважліва, такое мерапрыемства нельга лічыць карысным. Акрамя таго, яно патрабуе падаўжэння сеансаў і, значыць, неапраўданага зніжэння касавых збораў...

І ўсё ж, на маю думку, многае, аб чым гаворыць В. Нячай, знойдзе ў будучым прымяненне на практыцы. Перш за ўсё гэта датычыць такой формы культурнай самадзейнасці, як клубы сяброў кіно, якія за апошнія дзесяць гадоў атрымалі ў нас і за рубяжом шырокае распаўсюджанне.

На жаль, у кнізе мала гаворыцца аб характары прапаганды кінамастацтва ў друку, у прыватнасці, у рэкламных выданнях «На экранах Беларусі» і «Кінатыдзень Мінска». А варта было б пагаварыць аб тым, каб яны не дубліравалі адзін аднаго, былі б больш разнастайнымі.

Хочацца верыць, што кніга выкліча цікавасць у гледачоў, і тых, хто займаецца прапагандай кінамастацтва.

**А. ЧАРНУШЭВІЧ.**

В. Нячай. «Экран і мы». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1971.

# ДВА АБЛІЧЧЫ КАТАЛІЦЫЗМУ

**Праца гродзенскага гісторыка Я. Мараша прысвечана эканамічнай палітыцы каталіцызму ў Беларусі. Вучоны выкарыстаў багаты гістарычны архіў свайго горада, а таксама архівы Мінска, Вільнюса, Магілёва, Масквы і шматлікія выданні.**

У пачатку кнігі аўтар разглядае барацьбу дзвюх пануючых цэркваў, праваслаўнай і каталіцкай, у другой палове XVI — пачатку XVII стагоддзяў, барацьбу за магчымасць аказваць духоўны ўплыў на беларускі народ і атрымліваць ад гэтага матэрыяльныя выгоды.

Найбольшую цікавасць выклікае другая палова кнігі, якая прысвечана перарастанню каталіцкай царквы ў Беларусі ў буйнага зямельнага ўладальніка. Аўтар паказвае, што за паўтара стагоддзя (з 1652 па 1790 гг.) каталіцкая царква павялічыла свае ўладанні больш чым у тры разы.

Каталіцкае духавенства часам нават выступала супраць мясцовай адміністрацыі, забараняла зневажаць і катаваць веруючых. Але пры гэтым, як пераканаўча даводзіць даследчык, яно выходзіла зусім не з гуманных мэт, а дбала перш за ўсё пра захаванне рабочых рук.

Цікава расказваецца і пра «нядрэмныя клопаты» касцёла па ўмацаванні сялянскай гаспадаркі. Сапраўды, яшчэ У. І. Ленін адзначаў, што «беззямельны, бясконны, безгаспадарчны селянін—дрэнны аб'ект для прыгонніцкай эксплуатацыі». Таму царкоўнікі дапамагалі збяднелым сялянам цяглом і насеннем, хоць іх узаемаадносіны базаваліся на класавым антаганізме, а тая матэрыяльная дапамога якую царква аказвала прыгонным, выклікалася зноў жа яе вузкаэгаістычнымі мэтамі — мець працаздольных падданых.

Аўтар не абмежаваўся паказам толькі эканамічнай палітыкі каталіцызму—ён разглядае і яго ідэалагічную экспансію. І сапраўды, калі б каталіцкая царква карысталася толькі прапаведзямі, то наўрад бы яна здолела дасягнуць якога-небудзь поспеху. І толькі выкарыстоўваючы патрэбу беларускага насельніцтва ў лекарах, настаўніках, друкарах, у вучылішчах, шпіталях, ксяндзы маглі прапагандаваць ідэі каталіцызму і уніі.

Як паказвае даследчык, ідэалагічнае наступленне каталіцкай і уніяцкай цэркваў прывяло да таго, што ў 1790 годзе ў беларускіх землях толькі Вялікага княства Літоўскага засталося ўсяго 143 праваслаўныя прыходы. Уніяцкіх жа парафій было 1199, ды каталіцкіх—283, г. зн. разам у дзесяць разоў больш.

Гэта не замінала, як паказвае Я. Мараш, усім жыхарам края адчуваць сябе, у адрозненне ад суседзяў палякаў і літоўцаў—«рускімі», г. зн. беларусамі, і размаўляць на роднай мове.

Чытач атрымаў цікавую манаграфію аб эканамічнай палітыцы каталіцызму і барацьбе супраць яе ў Беларусі з 1569 па 1795 гг. Хацелася б такую ж кнігу прачытаць і аб эканамічнай і ідэалагічнай палітыцы другога буйнага духоўнага феадала Беларусі—праваслаўнай царквы. Бо выкрыццё рэакцыйнай ролі гэтых двух смокаў, што паразітавалі на целе беларускага народа на працягу стагоддзяў застаецца важнай задачай беларускіх гісторыкаў.

**В. ГРЫЦКЕВІЧ.**

«Ватыкан і каталіцкая царква ў Беларусі». Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1971.

Цімох СЯРГЕЙЧЫК

# З ЖЫЦЦЯ-

**Чытачы добра ведаюць кніжку народнага артыста БССР Цімоха Сяргейчыка «Нататкі акцёра», выдадзеную ў 1966 годзе. Мемуары вядомага дзеяча беларускай драматычнай сцэны, аднаго з заснавальнікаў БДТ-ІІ (цяпер Драматычнага тэатра імя Якуба Коласа), выклікалі цікавасць і зместам, і літаратурнай формай. Да таго ж гэтая кніжка з'яўляецца наогул «першай ластаўкай» і пакуль што адзінай у нас у жанры тэатральных мемуараў. «Нататкі акцёра» абрываюцца на падзеях 1944 года. Цяпер Цімох Мікалаевіч заканчвае працу над другой часткай кнігі. Прапануем урывак з яе, дзе артыст расказвае пра сваю рэжысуру (а вядома, што ён паставіў на сцэне роднага тэатра «Пінскую шляхту» і «Моднага шляхцюка», «Дзяцей Ванюшына», «Ірынку» і іншыя спектаклі). І гэты эпізод творчай біяграфіі Ц. Сяргейчыка паказвае яго дапытлівасць, імкненне да жыццёвай праўды ў сцэнічных вобразах, педагагічны такт і мастацкую смеласць.**

МАЕ ЗАХАПЛЕННЕ рэжысурай пачалося даўно: яшчэ ў гады студыйнай вучобы ў Маскве і, як ні дзіўна, — на ўроках акцёрскага майстэрства. Акурат у той час Смышляеў ствараў пры студыі клас рэжысуры і падбіраў для яго слухачоў. Ужо былі залічаны М. Міцкевіч, К. Саннікаў, П. Малчанаў і Л. Мазалеўская. Аднойчы ён прапанаваў мне таксама ўвайсці ў гэтую групу, на што я з радасцю даў згоду. Высокаадукаваны чалавек, таленавіты рэжысёр, акцёр і педагог, В. Смышляеў быў не толькі выдатным творчым кіраўніком і выхавацелем беларускай тэатральнай студыі ў Маскве, але і заснавальнікам нашага тэатра.

Ствараючы рэжысёрскую групу, Валянцін Сяргеевіч меў на мэце забеспячэнне будучага тэатра рэжысёрскімі аднадумцамі са свайго акцёрскага асяроддзя, творчы лёс якіх быў бы, такім чынам, шчыльна звязаны з лёсам усяго калектыву.

І цяпер у маёй памяці жывуць яго словы:

— Што патрабуецца для таго, каб стаць рэжысёрам? Перш за ўсё прызванне, талент, дасканалае веданне сваёй справы. Усебаковая адукацыя. Шырокі кругагляд. Веданне законаў не толькі тэатральнага мастацтва, але і ўсіх сумежных мастацтваў. Кіпучая энергія. Арганізатарскія здольнасці і эрудыцыя. Самастойнасць творчасці. Вобразнае мысленне. Веданне кожнага творцы ў тэатры — яго індывідуальныя асаблівасці, імкненні, густ і здольнасці. Умельства выяўляць іх у людзях. Кроўна быць звязаным з лёсам свайго тэатра і яго акцёраў.

Такім быў і сам Смышляеў.

Наш настаўнік любіў даваць вучням заданні для самастойнай работы і пільна сачыў за іх выкананнем.

Памятаю, ён склаў для мяне рэкамендацыйны спіс п'ес, з якімі неабходна азнаёміцца ў першую чаргу. Сярод іх аказалася драма С. Найдзёнава «Дзеці Ванюшына». Я прачытаў яе з вялікай асалодай, адным захадам.

Міналі гады. Студыя даўноператварылася ў тэатр, а студыйцы — у яго акцёраў. За гэты час мне давялося сыграць не адзін дзесятак цікавых роляў і самастойна ажыццявіць некалькі пастановак. Праўда, п'есы трапляли ў мае рукі пераважна слабыя. Гэта былі так званыя службовыя пастаноўкі. А хацелася паспрабаваць сілы на паўнацэнным матэрыяле, на п'есе, якая б захапіла цалкам. І тут я ўспомніў найдзёнаўскіх «Дзяцей Ванюшына»... Якраз на той час вядомы акцёр і рэжысёр Малога тэатра К. Зубаў даў згоду паставіць у нас у сезоне 1937—38 года французскую камедыю Л. Вернэйля «Мае злачынства», але выехаць у Віцебск на доўгі час не змог. Тады вырашылі паслаць патрэбных акцёраў на месяц-другі ў Маскву, дзе ён давядзе спектакль да генеральнай, а потым прыедзе ў Віцебск на пару тыдняў і выпусціць яго.

У п'есе роляў не так ужо многа. Трупа будзе занята не ўся. І дырэкцыя прапанавала мне паставіць «Дзяцей Ванюшына». Не цяжка адгадаць, які быў мой адказ. Я разумеў, што для мяне пытанне стаяла так: або сёння, або ніколі. Рызыкну.

Але ці зацікавіць драма Найдзёнава сучаснага гледача сваёю змрочнаю безнадзейнасцю? Ці не будзе яму нудна глядзець такі спектакль? А можа і акцёрам п'еса не спадабаецца?

З вопыту ведаю — ад першай чыткі п'есы калектыву шмат што залежыць. Яе трэба, як кажуць у нас, падаваць на сподачку.

Разгарнуў п'есу і... нібы анямеў. Доўгая, пакутлівая паўза. За мною сочыць многа пільных вачэй. Яны ўратавалі мяне. Мільганула думка: «Не трэба ніякіх «сподачкаў».

**Чытка прайшла добра. П'еса і ролі ўсім спадабаліся. Гэта мяне падбадзёрыла. Стала лягчэй на сэрцы яшчэ і таму, што ў часе чыткі перад акцёрамі я праз іх адчуў прыблізны настрой і ўспрыманне падзей п'есы будучым гледачом.**

**За работай непрыкметна знікаюць дзень за днём, нібы сняжынкі на цёплай далоні. Мінула тры тыдні пасля першай сустрэчы. За гэты час мы не аднойчы чыталі п'есу па ролях, асэнсоўваючы тэкст. Калі акцёры добра азнаёміліся з драматургічным матэрыялам, я прачытаў ім свой пастановачны план.**

**Творчыя ўзаемаадносіны ў рабоце рэжысёра з акцёрамі тонкія і таму надта складаныя. Рэжысёр шмат у чым можа дапамагчы акцёру, але ж і акцёр—творца, а не вучань.**

**Даводзілася ўвесь час быць напагатове, праяўляць вытрымку, тактоўнасць і вынаходлівасць. Бачыць сваё прызначэнне не ў павучаннях, а ў канкрэтнай падказцы акцёру самага істотнага, самага неабходнага ў ролі. Праводзіць рэпетыцыі так лёгка, цікава і змястоўна, каб акцёры забывалі пра час і стомленасць. Дакладней — ператвараць акцёрскую працу ў радасную творчасць.**

НАСТАЎ ЧАС, калі я мог спакойна даць акцёрам некалькі выхадных дзён і скарыстаць сваю творчую камандзіроўку ў Маскву. Да аўтарытэта, да Зубава.

— З ролі Алёшы ў «Дзецях Ванюшына» я пачынаў сваю акцёрскую кар'еру, — сказаў ён. — Буду рады падзяліцца вопытам. Вядома, п'еса вам падабаецца?

— Вельмі, з усімі яе дадатнымі і адмоўнымі бакамі.

— А як вы вызначаеце жанр п'есы? — ловячы на слове, пытаецца Канстанцін Аляксеевіч.

— Як псіхалагічную сацыяльную драму.

— А куды вы дзенеце быт?

— Мяркую зрабіць строгі адбор самага неабходнага.

— Будзьце ласкавы, Цімафей Мікалаевіч, прачытайце свой пастановачны план. Хачу высветліць, у чым патрэбна мая дапамога. Зараз мы аднаўляем спектакль «Дзеці Ванюшына» ў Малым тэатры, і мне давялося па гэтым пытанні раіцца з адным кампетэнтным чалавекам. Ён выказаў некаторыя думкі, аналагічныя вашым. Дарэчы, вы яшчэ не распачыналі работы з акцёрамі над п'есай?

— Даўно распачаў і ўжо пазнаёміў іх з пастановачным планам.



— Чаму? — здзівіўся Зубаў.—Лагічней было б давесці план выканаўцам пасля прыезду з Масквы.

— Шчыра прызнаюся, калі б я не зрабіў гэтага да паездкі ў Маскву, яны б падумалі, што план мой не самастойны, а запазычаны.

— А вы, аказваецца, дыпламат, — смяецца Канстанцін Аляксеевіч. — Ну, а калі ў мяне будуць сур'ёзныя карэктывы да вашага плана? Як жа тады?

— Прыеду і сумленна раскажу калектыву пра ўсё, што вы забракавалі.

— І адмовіцеся ад свайго плана?

Такое нечаканае пытанне насцярожыла мяне. Сабраўшыся з думкамі, пасля кароткай паўзы, адказваю:

— Пераглядзець змагу... а вось адмовіцца? Мяне вучылі: парайся з адным, другім... падумай, узваж і зрабі па-свойму, як табе падказвае ўласнае бачанне, розум і сэрца. Толькі ў крайнім выпадку, калі пад напорам неабвержных доказаў сам пераканаешся, што план твой заганны, адмаўляйся ад пастаноўкі.

Зубаў паціснуў мне руку.

— Правільна, Цімафей Мікалаевіч. Усім дагадзіць нельга, а страціць сваё творчае «я» такім чынам лёгка. План ваш цалкам ухваляю!.. А хто ў вас прызначаны на ролю Ванюшына?

Мне стала няёмка. Перамагаючы сябе, адказваю:

— Я.

Канстанцін Аляксеевіч здзіўлена акінуў мяне калючым позіркам, нахмурыўся і пачаў барабаніць пальцамі па стале. Цень незадаволенасці адбіўся на яго твары. Памаўчаўшы крыху, ён суха сказаў:

— Гэта памылка. Роля Ванюшына не ў вашым плане.

— Чаму? — нясмела пытаюся.

— Проста фізічна не падыходзіце. Як кажуць, не той габарыт.

— Канстанцін Аляксеевіч, нельга ж у тэатры размяркоўваць ролі па прынцыпе тыпажу, як у кіно, — горача запратэставаў я. — Ад такога размеркавання шмат губляе і сам тэатр і яго акцёры. Дзе ж тады наша хвалёнае акцёрскае пераўвасабленне?

Замест адказу Зубаў сярдзіта запытаў:

— Скажыце, Цімафей Мікалаевіч, толькі шчыра, вы самі зрабілі заяўку на гэтую ролю, карыстаючыся правам рэжысёра, ці вас прызначылі?

— Ну, вядома, прызначылі. У нас не было каму іграць Ванюшына, а мне вельмі захацелася паставіць п'есу, таму і згадзіўся. Зараз я сапраўды захапіўся гэтай роляю і хачу іграць яе. Хто яго ведае, можа падсвядома і п'еса калісьці спадабалася мне з-за ролі Ванюшына. Зразумела, гэта я цяпер так мяркую, а тады і ў думках не меў падобнага.

Пасля майго прызнання калючасць Зубава знікла. Ён зноў стаў ветлівым і па-сяброўску загаварыў:

— Галубчык, Цімафей Мікалаевіч, вы ўяўляеце, які цяжар ускладаеце на свае плечы? Такой непамернай нагрузкі вы не вытрымаеце.

— Вельмі добра ўяўляю, Канстанцін Аляксеевіч, і вытрымаю, запэўніваю. Ад работы яшчэ ніхто не паміраў. Мяне ж нездарма ў тэатры клічуць двужыльным.

— Давайце гаварыць сур'ёзна, — мякка перапыняе Зубаў. — Зразумейце, нарэшце, што Ванюшына заўсёды ігралі выдатныя акцёры, сталыя майстры сцэны, якія мелі вялікі творчы і жыццёвы вопыт. Вы яшчэ малады і мала спрактыкаваны акцёр. Вам не сыграць сцэны з Алёшам у канцы трэцяй дзеі, як не сыграць і чацвёртай — калі Ванюшын вырашае скончыць жыццё самагубствам. Тут трэба высокае майстэрства, жывая праўда, прастата, напоўненая гарачым пачуццём і думкай. Гэта яшчэ не ў вашых магчымасцях.

— Усё разумею, Канстанцін Аляксеевіч. Але зразумейце і вы. Само майстэрства да мяне не прыйдзе. Яго трэба набываць упартай працай над ролямі, а такія ролі, як Ванюшын, не часта трапляюць у нашы рукі. Зразумейце, нарэшце, і тое, што для мяне шлях да адступлення адрэзаны.

— Вы можаце паказаць зараз Ванюшына такім, як бачыце яго ў сваім уяўленні?

З рашучым адчаем адказваю:

— Магу! Пакажу эцюдным парадкам яго першы выхад: сустрэчу з Аляксеем.

Зубаў упіўся ў мяне вачыма.

Усё сваё хваляванне, неспакой і трывогу, атрыманыя зараз ад размовы з ім, я пераношу на Ванюшына і пачынаю дзейнічаць.

ТУТ ЖА, у пакойчыку, кладуся на канапу (гэта мой ложак). Заплюшчваю вочы. Ноч. Цішыня. Усе спяць, а я не магу заснуць. Трывожныя думкі: «Нядобрае робіцца ў доме. Рушыцца сям'я, увесь лад жыцця. Сын Аляксей пачаў позна прыходзіць дадому. Сёння не быў у гімназіі. Дырэктар прыслаў па мяне. Распаўсюдзяцца чуткі па горадзе, сораму не абярэшся. Што з ім сталася? Дзе ён бадзяецца?» Варочаючыся ў ложку з боку на бок, мармычу сабе нешта пад нос па-старэчаму. Часта паднімаю галаву, прыслухоўваюся да кожнага шораху. Зноў кладуся, зноў варочаюся. Нацягваю коўдру на галаву. Не дапамагае. Устану, пахаджу, зноў лягу... І гэтак цалюткую ноч.

**Раптам здалося, што звоніць нехта, «Вядома, Алёша». Запальваю ўяўную свечку, апранаю такі ж халат, гляджу на гадзіннік, што вісіць на сцяне. Ён паказвае пяць.**

**Іду ў адны дзверы — нікога няма. У другія — пуста. Вяртаюся ў пакой — Зубаў знік з крэсла. Аглядваюся наўкол, а ён стаіць на табурэтцы каля гадзінніка, і пераводзіць стрэлкі назад. «Ага, уключыўся ў ігру замест Аляксея», — дайшло да мяне.**

**— Ах ты, зладзюга! Ах ты, распуснік! Нагарэзнічаў, як шкадлівы кот, а цяпер бацьку шальмаваць уздумаў? — узнік, як цяпер кажуць, унутраны маналог.**

**Раптам ахапіла шалёная злосць. Захацелася кінуцца на яго, ударыць, паваліць на падлогу, і мясіць, мясіць нагамі, але востры боль сціснуў сэрца і з грудзей вырваўся глухі стогн. Ад яго Зубаў — Аляксей, як уджалены, саскочыў з табурэткі і, убачыўшы мяне, спіною прыліп да сцяны.**

**Стрымліваючы лютасць, моўчкі свідрую яго позіркам. Зубаў увесь скурчыўся нібы я яго выцяў.**

**— Дзе бадзяўся? — сціснуўшы зубы, пытаюся.**

**— У таварыша быў, — заікаючыся, адказвае Зубаў. Яго страх мне спадабаўся.**

**— Глядзі, Аляксей, не дажывём мы з табою да дабра. Малако на губах не абсохла, а начамі бадзяешся. — Прабіраю сына, выклікаючы на шчырае прызнанне сваёй віны. Але, заўважыўшы маю слабасць, Зубаў сам пераходзіць у наступленне.**

**— Я, татуля, у таварыша быў. Што ж тут дрэннага?**

**— Маніш! Разнясі цябе гарою! — раз'юшана зароў я на ўсё горла, не вытрымаўшы такога цынізму, і пачынаю выкрываць хлусню.—У гімназіі сёння не быў. Дырэктар прысылаў па мяне. Пашкадаваў бы бацьку!**

Зубаў са страху падаецца назад да дзвярэй, каб уцячы. Заўважыўшы гэта, загадваю:

— Чакай! — Зубаў спыніўся. Авалодаўшы сабою, зноў спрабую нагутарыць з ім шчыра:—Я ж ноч з-за цябе не сплю... Выганяць, што будзеш рабіць? — І не вытрымаўшы, зрываюся на крык: — Бочкі з цукрам прымушу адкрываць, горш за рабочага зраблю! — Раптам апамятаўшыся, ціха, з болем у душы пытаюся: — На што ты, дурань, спадзяешся? Чаго чакаеш? Скажы мне, калі ласка.

— Што казаць... Вы гэтага не зразумееце, — безнадзейна махнуўшы рукой, адказвае Зубаў.

Яго словы і асабліва жэст нібы пугаю сцебанулі мяне па хворым месцы. «Дажыў на старасці год. Яйцо курыцу вучыць. Усё рушыцца. Стоўпатварэнне нейкае вавілонскае». Зрабілася маркотна ад такіх думак. З вялікай тужлівасцю і сарказмам адказваю:

— Дзе ўжо там зразумець! Эх ты, д'ябал, д'ябал! Бацьку ты дурней за сябе лічыш. Ты пажыві з маё, папрацуй... — І тут, нечакана, зноў ахапіла лютасць. Баючыся страціць кантроль над сабою, цяжка дыхаючы, хрыплю:

— Прэч з маіх вачэй!

Зубаў, адчуўшы небяспеку, пусціўся наўцёкі, а я, задыхаючыся, падаю ў крэсла, расшпільваю сарочку і пачынаю расціраць грудзі.

За дзвярыма пачуліся нейчыя крокі.

— Хто там? — пытаюся.

Не ўбачыўшы нікога і не атрымаўшы адказу, звешваю галаву і паглыбляюся ў невясёлыя думкі.

— Дзякую, Цімафей Мікалаевіч, далі мне дыхту. Ваш паказ і ваша апантанасць шмат у чым пераканалі мяне і зацікавілі. Абавязкова прыйду на прэм'еру. Ну, як казалі даўней, дай жа, божа, вам удачы...

ВЯРТАЮСЯ З МАСКВЫ дадому. Пасажыраў мала. У купэ, апроч мяне, нікога.

Ноч...

Гарыць настольная лямпа пад зялёным абажурам, рытмічна стукаюць колы, ды марна гойдаецца вагон.

Ляжу, нібы ў калысцы, на пасцелі — адпачываю. Зялёны прыцемак хіліць на дрымоту. Ні аб чым не хочацца думаць. Лянота нават пальцам варухнуць, а ў памяці чамусьці міжволі ўсплываюць малюнкі з мінулага.

Паўстае летні адвячорак у роднай вёсцы. Усе жыхары адпачываюць на вуліцы.

Мы, падлеткі, ашалела носімся па ёй, гуляючы ў гарэлкі. Ад смагі перасохла ў роце. Бягу ў бліжэйшую хату, каб напіцца, пераступаю парог — і дзіву даюся.

Абняўшы скрыпку, гаспадар жытла сядзіць адзін, як сыч, на лаўцы за сталом і наўзрыд плача.

Шкада зрабілася старога. Хочацца падбегчы да яго, суцешыць, але баюся: яшчэ ўзлуецца. Дарослыя не любяць паказваць людзям свае слёзы.

Разгублены, саджуся на парозе і не ведаю, што рабіць. А ён пагладзіў скрыпку, нібы любімае дзіця, прыклаў яе да падбародка, узняў смычок і стаў іграць. Сам кінуў плакаць. Замест яго цяпер загаласіла скрыпка.

**Неўзабаве стары пачаў дапамагаць ёй — на высокай ноце, чужым, іржавым голасам, зацягнуў працяглую песню:**

**Адзін, адзін я ў свеце, як былінка**
**ў полі на вятру.**
**Чужы, чужы я дзецям, як нію**
**трэсачка ў віру...**

**Песня гаварыла аб бацькоўскім смутку і адзіноце, а стары ўсё іграў і спяваў, зноў абліваючыся слязьмі, нікога не бачачы і нічога не заўважаючы перад сабою. Яго спеў, падобны на клёкат падбітай птушкі, халадзіў душу.**

**Са страху я кінуўся наўцёкі. Дабег да сваёй хаты, упаў на прызбу і расплакаўся. З вуліцы ўслед за мной прыбег у трывозе бацька.**

